# МЕНСКАЕ ЖЫЦЬЦЕ.

**Часовая мястовая рада**, як нам паведамляюць, адчыняне свае пасядзэньні 22-га сьнежня.

Першым чынам маюць быць зроблены выбары на адпаведные пасады у члены магістрату і у камісіі.

**Рух цягнікоу** адноулены у поуным абхваце паміж Менскам і Варшавай. Цягнікі зноу адпрауляюцца з віленскага вакзалу. З прычын вялікага наплыву пасажырау у першые дні будуць адхадзіць цягнікі з 2-ма паравозамі.

**У польскай краевай касе** з прычын адсутнасьці комунікацыі з Варшавай, абмен стомграчных білетау на дробную манэту ня робіцца.

**Тутэйшые коопэратывы** зрабілі вялікіе закупкі у Варшаве і заграніцай. Коопэратыу „Домовлад" закупіу у Варшаве партыю бітага птаст а. Цэнтральны рабочы коопэратыу здабыу вялікую партыю пасудзін, селядцоу і цукеркау. Шмат таварау закупілі коопэратывы урадовых служачых і чыгуншчыкау.

**Скура** на менскім рынку за апошніе дні значна патанела (працэнтау на 25) у зьвязі з падвозам скуры фурманкамі з Вільні.

Адвак, шауцы на гэта увагі не зьвяртаюць і даяруць—за пару ботау 700 руб.

**У мэтах боркі з эпідэміяу** аддадзено распараджэньне аб тым, што усе дактары, дамауласьнікі, уласьнікі прадпрыімствау і г. д. павінны абавязкова выпауняць усе санітарные патрабаваньні, якіе вымагае санітарны адзел.

**Вялікая партыя дроу** прыбыла на іме Цэнтробелсаюзу. Часьць дроу рэквізавана ваенай уладай.

**У Ігумене** на выбарах у магістрат прашлі 14 жыдоу, 5 расійцау і 5 палякау. Выбары будуць касіраваны.

**Почта у Докшыцах** гэтымі днямі пачала функцыянаваць.

**Два вагоны мукі і круп** украдзены на ст. Менск. Гэтые прадукты прыбылі у адрэс адзелу апровізацыі. Паліцыя вядзе па гэтай справе строгае расьследаваньне.

---

## Анэгдоты вершам.

### У сыскной паліцыі.

*(Прыгоды жыцьця).*

— „Мой панок, а мой паночак!
Во нящчасьце стало:
Досьвіт сеньня пяць грабежцау
На наш дом напала.
Божа-ж мой! Вадай іх ліха,—
Што-ткі ім здалося?
Каб сказау, што ад суседзяу
Нам шмат лепш жылося.
А то-ж, не! Прысталі гады,
Павязалі рукі,
Ногі спуталі і білі,—
Страх дазналі мукі!
Муж—дык той самлеу адразу,
Ляжау, як забіты.
А мяне усю чыста зьбілі
Гэтые бандыты."
— „Ціха, бабка, заспакойся,
Прысядзь на услоне.
Дык ты кажаш, гэта была
Раніцой сягодня?
— Так паночку,—яшчэ толькі
Днецца пачынала,
Чую, сучка наша у сенцах
Раптам забрахала.
Кажу мужу: сьпіш Гаурыла?
Устань бо дрэнна будзе:
Гэта ужо не гарадзкіе
Да нас прупца людзі;
Ні зара, ні сьвет—ня пойдуць
Людзям дакучаці,
Пальто з плеч ды грамафоны
На муку мяняці.
Падымайся! Чуеш—лезуць,
Апрані адзеньне....
Муж устау, у сенцы вышау,
Аж вось нападзеньне!
Крычаць: стой! да верху рукі!
Ні зяуні, бо кулю
Усаджу табе і жонцы!—
І падставіу рулю.
— Добра, бабка, разумею.
Хто-ж яны такіе?
Ці пазнала-б каго небудзь,
Адкуль?—Бабка вые:
„Яж ня ведаю. Хтось грымнуу,
У вачах цемна стала!
За што-ж нас такіх сумленных
Ліха напаткала?!..
— Цішэй, бабка,—лепш прыпомні,
Раскажы прыметы:
Які уарост, якога веку,
Як былі адзеты.
Разбяромся." — Сышчык спрытна
Задавау пытаньні.
Пісар піша у пратаколе
Цалае дазнаньне.
— „Ну, а што-ж у вас забралі?
Колькі абожжа, рэчы?"
„Шмат чаго панок: цярсьценкі
Выцягнулі з печы,—
У пячурцы умураваны,
Дык дасталі гады;
Муж прызнауся, што у пуні
Есьць адзежы склады.
У куфэрку захаваны
Ні трымалі у дому—
Дык раськідалі усе чыста
Сено і салому.
Што было — усе забралі:
Ясік, тры падушкі
Люстру пекную, хвіранкі,
Матар'ял, істужкі.
Пяць сурдутау, дзьве візыткі,
Кофты ды спадніцы,
Прасьціралы і наулечкі,
Порткі, рукавіцы..
Шмат чаго—аж страх успомніць,
Сэрцо млее з жалю.
Гэта-ж, пане, берагла я
Ды свайму Ігналю
Хутра пекнае на лісах,
А сабе-ж з караклю,
Пар са тры калеш глыбокіх
Захаваны у паклю,—
Усе дасталі. Во, паночку,
Гдзе наш пот зіоцца:
Людзі несьлі, хто што уздумау,
Шмат іх назьбярэцца.
Дык нязнаеш — на замену
На хлеб ды на сало,
Што лепш браць, бо усе зьбываюць,
Бярэш, што папала.
Дагаджаеш неяк людзям,
Памагаці-ж трэба,—
Гарадзкіе прыдуць, енчуць,—
Ткнеш ім лусту хлеба...
Вельмі дзякуюць—гатовы
Зьняць сарочку з цела;
Аддадуць усе за крайчык,
Што-бы не схацела.
І вось-на! Уся праца наша
За нішто прапала..,
І за што нас, Божа мілы,
Кара напаткала?"
— „Добра, бабка а што-ж болей
Выцягнулі з хаты?"
— „Каб з іх дух цягнула, пане,
Сколькі мелі страты!
Адно толькі, хоць цярпела,
Але не сказала,
Гдзе я грошы у кубелцах
Лоука захавала.
Усюды шнырылі, шукалі
Усе перапаролі—
Але-трасцу! Знашлі толькі
Скрыначку у насолі.
Там крыху было.—„А скольки?
Трэба у пратаколе
Лік зазначыць, калі помніш.
— Там, панок ня болі—
Помню жменьку—тысяч сорак
Ад свайго схавала,
Што адной сьмятанкай з млечкам
За вясну сабрала"...

---

Дапрос зьняты. Баба плача.
Во жыцьце людзкое!
Дзярэ воук, дзяруць самога,
Зло ня йдзе рукою.

**Альбэрт Пауловіч.**

---

*Рэдактар-выдавец*
*Ядв. ЛУЦЭВІЧ.*